Год. I. Чацьвер 29 сьнежня 1921 г. № 6.

# РАНІЦА

штодзенная, грамадзкая, палітычная і літэратурная газэта

АДРЕС РЕДАКЦЫІ і КАНТОРЫ
Вільня, Вострабрамская № 4, „Hotel Szlachecki" пак. № 2.
Рэдакцыя адчынена што дня, апрача сьвят, ад 11 да 1 і ад 5 да 7 гадз.

**Цана нумару 20 марак.**
Падпіска на 1 мес. . . 400 марак.
З перасылкай 1 „ . . 500 „
За граніцай ў два разы даражэй.

ЦАНА АБВЕСТАК:
За адзін радок звычайнага друку на 1 стр.—60 м.
ў тэксьце . . . . . . . 75 м.
за тэкстам . . . . . . . 40 м.
Для шукаючых працы на 10 прац. таней.

## Беларусы! Усе на выбары, як адзін! Усе на абарону Бацькаушчыны!

## АБВЕСТКА.

Аддзел Асьветы пры Ц. К. К. С. паведамляе усіх беларускіх вучыцялеу, што яны у сваім інтэрэсе, як найхучэй павінны зарэгістравацца у Аддзеле Асьветы. Тыя вучыцялі, якія ня могуць самі прыехаць у Вільню, павіны, **зглосіцца** па пошце па анкетныя лісты, і запоуніушы іх прыслаць у Асьветны Аддзел пры Цэнтральным Камітэце Краевай Сувязі: Вільня Ахвярная 4 пак. 2. Рэгістрацыя вядзецца у Аддзеле Асьветы, што дня ад 10 г. раніцаю да г.3-цей на палудні.

*Рэдакцыя газэты просіць п. падпісчыкау высылаць у пару грошы за газэту. Калі грошы ня будуць адтрымываца, то высылка газэты будзе затрымана.*



## Беларуская Прадвыбарная Акцыя.

Беларускі Выбарчы апарат ўжо зусім з'арганізаваны.

Цэнтральны Беларускі Выбарчы Камітэт месьціцца па **вул. Ахвярнай** д. 4; адчынены увесь дзень.

Усялякія інфармацыі выдаюцца дзяжурным.

Акружныя Беларускія Выбарчыя Камісіі ўжо ад тыдня працуюць у **Ашмянах і Камаях**.

Першая выбарчая літэратура разаслана ў вялікім ліку экзэмпляраў.

Выбарчы Камісар п. **Адам Курыловіч**, аб'ехаў асабіста вокругі Ашмянскі і Камайскі.

Агульны настрой люднасьці прыхільны да выбараў.

Сьцьверджана, што шмат адозваў раскінута ўрадам Ластоўскага і партыяй эс-эраў.

Гэтыя дэмагагічныя звароты да народу ня маюць жадных водгукаў.

Выбарчыя сьпіскі на вокругі Ашмянскі і Камайскі аканчацельна зацьверджаны.

*Вільня 29 сьнежня.*

Рускія старазаконьнікі Браслаўскага павету, маюць куды болей здаровага сэнсу і з'яўляюцца лепшымі палітыкамі, чым нашы беларусы з нацыянальнага камітэту і тыя партыі, якія ўвашлі ў гэты камітэт.

Старазаконьнікі разважаюць так: з Расеей жыць ня можна. Бальшавікі абрацілі ў няволю ўвесь народ, працаваць на сябе там ня можна, бо ўсё—роўна, ўсё, што выпрацуеш, адбяруць, каб карміць цэлую армію камісараў і камуністаў...

Пры такіх варунках толькі саўсім дурны чалавек можа марыць аб далучэньні Беларусі да вымiраючай і гібнучай Расеі. Навет у будучыне, калі-б скончылася панаваньне бальшавікоў старазаконьнікі ня хочуць мець нічога супольнага з Расеей. Жывучы на Беларусі з часоў Кацярыны, яны многа цярпелі ад уціску царскага рэжыму ўзварот яго для іх, разумеецца, ня можа быць пажаданым.

Наконта Літвы старазаконьнікі лічаць, што злучацца з такім маленькім і саўсім слабым гаспадарствам няма жаднага сэнсу. Усё роўна літоўцы будуць у вечнай эканамічнай кабале ў сваіх моцных суседзяў-немцаў. Заняўшы Сярэднюю Літву яны будуць старацца скарыстаць яе для сябе.

Што тычацца немцаў, дык Антанта ніколі ня згодзіцца, каб яны занялі якую-бы ні была тэрыторыю на Усходзе.

Наконта істнаваньня Беларусі, як незалежнага гаспадарства, старазаконьнікі кажуць: сярод беларусаў вельмі мала гаспрадарсьцьвеных людзей. Беларускія дзеячы, арганізацыі і партыі вядуць розную палітыку, сварацца і грызуцца адзін з адным. Яны ня ў сілах адбудаваць дзяржаўную Беларусь. Да гэтага эканамічнае становішча Беларусі, ня гледзячы на яе прыроднае багацьце, пасьля зьнішчэньня ў часы вайны, вельмі цяжкае. Трэба вялікай матэрыяльнай дапамогі, каб наставіць сельскую гаспадарку на ногі, адбудаваць вёскі, адчыніць школы. адкуль-жа-ш селянін возьме сродкі на ўсё гэта?

Хто яму дапаможа?

Застаецца толькі адна Польшча, аб'яднаньне з якой будзе вельмі карыстным для жыхароў Сярэдняй Літвы. „Калі браты палякі — кажуць старазаконьнікі — працягіваюць нам руку, дык мы прымаем гэтую руку са шчырым сэрцам. Мы верым у Польскую Канстытуцыю і верым, што польскі народ, сам працярпеўшы даўгалетнюю маскоўскую няволю, сам цярпеўшы уціск і зьдзек ад царскіх урадьнікаў не захоча нашай нядолі, нашай бяды Мы усе як адзін пойдзем галасаваць у Віленскі Сойм, каб нашы прадстаўнікі выявілі шчырае жаданьне — далучэньне Сярэдняй Літвы да Польшчы, каб нашы прадстаўнікі баранілі ў Сойме нашы інтарэсы старых жыхароў гэтага краю".

Вось як разважаюць людзі са здаровым палітычным вумом.

## БЕЛАРУСЫ!

**Вашыя выбарчыя сьпіскі, за якія усе мусіце галасаваць як адзін.**

Па Ашмянскаму вокругу сьпісак № 6.

1. Аляксюк Павал
2. Тарчэўскі Янка.
3. Карэнда Міхал.
4. Буткевіч Пётра.
5. Камароўскі Фэлікс.
6. Стрыга Аляксандар.
7. Субач Францык.
8. Ганусевіч Ігнат.
9. Родзька Андрэй.
10. Чыжэўская Мар'я.
11. Барчоўскі Язэп.
12. Семян Сьцяпан.

Па Камайскаму вокругу.

1. Шышкоу Васіль.
2. Бэкіш Янка.
3. Міхайлаў Фядот.
4. Цьвілэнь Марцін.
5. Барсукоў Васіль.

Выбарчы Камісар
Адам Курыловіч.

## ТЭЛЕГРАМЫ.

ПАЗНАНЬ 28 XII (АВ). Сюды ўчора прыехаў Начальнік Гаспадарства. На вакзале яго віталі прадстаўнікі мяйсцовай ўлады. У катэдры адслужыў імшу ў прысутнасьці Начальніка Гаспадарства, кардынал Дальбар.

У паўдня адбыўся ў Ратушы сход, на якім было шмат народу. Прад гэтым Начальнік Гаспадарства зрабіў вайсковы парад.

МАРСЫЛІЯ 28 XII (АВ). Адбываецца зьезд камуністаў французскіх. На зьезьдзе 350 дэлегатаў. На першым пасяджэньню прачытан ліст 3-га інтэрнацыянала, прызываючы ўсе камуністычныя арганізацыі да падгатоўкі да ўсясьветнай камуністычнай рэвалюцыі.

БЭРЛІН 28 XII (АВ). Учора ўвесь дзень радзіўся кабінэт Жэшы ў справах адшкадаваньня. Урад ня даў пісьменнага адказу Францыі ў гэтай справе але замест таго сёньня выедзе ў Парыж сэкрэтар фішэр з мэтай апошняга паразуменьня з камісыяй адшкадаваньня. Ратэнаў ня будзе прымаць учасьця ў Парыжскіх пасяджэньнях.

ВАРШАВА 28 XII (ВА). Польскі камітэт помачы галодным уцекачом з Расеі хоча арганізаваць у тых днёх сваю дейнасьць у большым маштабе. Дейнасьць будзе выяўляцца ў зборы жыўнасьці цёплых вопратак. Першы транспарт прадуктаў для затрыманых Савецкай Уладай ў дарозе, будзе высланы ў хуткім часе.

